12

# Беларускі піонэр



На сенажаці. — Па фотографіі П. Гутко[illegible]скага.

# Тыгра пад Масквою

(*З нядаўнага здарэньня*).

З цягніка, што ішоў з Масквы ў Ленінград, недалёка ад Масквы ўцякла тыгра.

Тыгру гэту везьлі з Маскоўскага зоопарку для абмену за граніцай на жырафу. Скарыстаўшы адсутнасьць ў вагоне праваднiка, тыгра зламала краты.

Усю небясьпеку праваднік ужо зразумеў тады, калі раптам, кілёмэтраў 65 ад Масквы, ля станцыі Поварава, вялізнае паласатае цела выскачыла ў часе поўнага ходу цягніка з вакна вагону. Але было позна: тыгра схавалася ў лесе.

Зараз-жа паведамілі пра гэта Маскву. Чатыры маскоўскія паляўнічыя кінуліся на вакзал. Яшчэ пятнаццаць паляўнічых, хутка ўзброіўшыся, селі на аўтамабіль і паехалі па шашы. Сьледам за імі, таксама на аўтамабілі, выехалі паляўнічыя гурткі спартыўнага таварыства „Дынамо" і інш.

Трэба было высачыць і акружыць тыгру раней, чым яна магла забегчы далёка. А да ночы заставалася ўсяго некалькі гадзін. Паляўнічы Шумаў, сеўшы ў цягнік, які ішоў амаль бяз прыпынкаў, патрабаваў спэцыяльнага прыпынку ля станцыі, дзе бегла тыгра. Цягнік спынілі. Па шашы ўжо набліжался аўтамабіль з іншымі паляўнічымі. Але ўсе яны спазьніліся.

Каля 5-й гадз дня пастушок Дзюшагін, пасьвіўшы кароў недалёка ад вёскі Ганчарова, у 2-х кілёмэтрах ад чыгункі, раптам заўважыў нейкую дзіўную жывёліну, якая вышла з-за дрэў і накіравалася да стада. З перапалоху ён палічыў яе за звычайнае пярэстае, чорнае з жоўтым, цялё. Так ён і расказаў сялянам, прыбегшы ў вёску. Пастушка ніхто не зразумеў, тым больш, што ніхто з іх ніколі ня бываў у Маскоўскім зоопарку і ня бачыў ніколі тыгры. Ясна было толькі тое, што стаду пагражае небясьпека. Тады некалькі мясцовых паляўнічых, узброіўшыся драбавікамі, кінулася да стада.

Але што значыць драбавікі для тыгры? На шчасьце была ўсяго адна старадаўная італьянская стрэльба ў лясьніка Сьцяпана Максімава, якая была набіта вялікімі валавянымі кулямі, якіх цяпер нідзе няма.

У вёсцы ў той час ударылі ў сыгнальны звон. Старшыня сельсавету Кіріл Максімаў на кані памчаўся на станцыю, каб паведаміць у Маскву. Тут ён сустрэў маскоўскіх паляўнічых. Чалавек пятнаццаць сялян з Ганчарова, узброіўшыся хто віламі, хто сякерамі, пабеглі ў дапамогу сваім паляўнічым.

Але, калі тыгра разявіла ляпу і зараўла, многія, спалохаўшыся, уцяклі назад. Ня струсілі толькі



*У лясох Індыі водзіцца шмат тыграў і іншага зьвяр'я. Чалавеку там прыходзіцца на кожным кроку змагацца з лютым зьверам—сваім ворагам. На малюнку—паляваньне на тыгру ў Індыі.*

двое Максімавых, двое Аляксандравых і Ягораў, узброеныя паляўнічымі стрэльбамі. Лясьнік Максімаў стрэліў са стрэльбы і прастрэліў тыгры лапаткі. Яна крыху адбегла. Паляўнічыя кінуліся за ёю. Другім стрэлам тыгры прастрэлілі шыю. Але, зрабіўшы некалькі скокаў, яна апынулася ля лесу і толькі тут звалілася, зарычэўшы на падыходзячых паляўнічых. Некалькі стрэлаў у рот прыкончылі жыцьцё тыгры.

Тут заўважылі, што ў Аляксандрава прапаў конь. Ужо позна знайшлі яго ў лесе жывым, але ўсяго параненым кіпцюрамі і з пракушаным горлам.

Толькі маскоўскія паляўнічыя, прыбегшы, растлумачылі сялянам, з якою зьвяругаю яны мелі справу. Забітая тыгра важыла 176 кілё (11 пудоў) і ростам з невялікае цялё. Тое, што тыгра не ўцякла далёка, тлумачыцца толькі тым, што яна каля двух год пражыла ў зоопарку і адразу не зразумела свае свабоды, якою яна карысталася ўсяго тры гадзіны. Кошт тыгры—4000 руб.

На аўтамабілі забітую тыгру прывезьлі ў Маскву. Сюды-ж прыехалі і паляўнічыя.

Дырэкцыя зоопарку ўзнагарадзіла паляўнічых і сялян за такую хуткую расправу з драпежнікам: пастухом выданы грашовыя ўзнагароды. Чатыром паляўнічым—Васілю і Паўлу Аляксандравым, Ягораву і Аляксею Максімаву і лясьнічаму Максімаву Сьцяпану выданы паляўнічыя стрэльбы.

Усе яны ў Маскве зьняты на кіно-істужку.

**Несьцяроўскі.**

## Паштовая скрынка.

**Шашуку Язэпу.**—Допіс „Піонэры ШСМ" нічога цікавага для чытачоў ня дасьць. Ты пішаш, што вашы піонэры ўстаюць, маршыруюць, п'юць гарбату... Дрэнныя-ж—тады ў вас піонэры, калі яны толькі гэтым займаюцца. Гэта—не галоўнае. Цікава, як яны працуюць?

**Ландарскаму.**—Допіс пра „Кіраўніцтва ячэек" скарыстаем. Іншыя—не.

**Алесю Марнаму.**—Пішаш ты ня дрэнна. Але тэма „Каляды" ў цябе распрацавана ня добра: няма цікавых момантаў, расьцягнутае апісаньне нікому нецікавый каляды і інш. Прыглядайся да часопісі, да хрэстоматый, якія там апрацоўваюцца тэмы. Гэта табе паможа ў выбары новых, цікавейшых тэмаў з жыцьця дзетвары.

**Я. Чуткаму.**—Недахоп у тваіх вершах адзін: ты не ўладаеш поэтычнай формай пісаньня. У цябе ня верш,—а прамова. Ты так прамовай і пачынаеш верш:

„Нядзеля дзіцячага, юнага сьвята,
Нядзеля вучоту мінулай працы".

**Песьняку А.**—Твая заметка „Уздымем ураджай" друкавацца ня будзе. Ты пішаш, што вучні сямігодкі „захапіліся ўздымам ураджайнасьці". Добра. Потым пішаш, што сабралі некалькі пудоў попелу ў адзін дзень. Калі больш нічога не зрабілі—дык дрэнна-ж яны „захапіліся". А якая іх штодзенная праца над падвышэньнем ураджаю?

**Конанаву М.**—Ніякага матар'ялу для збору падпіскі на нашу часопіс не патрэбна. Зьбірайце падпіску і здавайце на бліжэйшую пошту.

**Кісяліеру А.**—Ты напішы лепш пра якую-небудзь конкрэтную работу вашага атраду.

**М. Зьвераву.**—Апав. „На вайну" ня пойдзе; лепш прабуй пісаць допісы.

Рэдколегія: **А. Баліцкі, В. Буклей, Я. Маўр, А. Пякарчык, А. Якімовіч.**
Нам. рэдактара **А. Якімовіч.**

Год выданьня 5-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 12 ооооооооо ЧЭРВЕНЬ ооооооооо 1929 г.

## Сонца—найлепшы лекар

*Дзе рэдка бывае сонца, там часта бывае лекар.*

*(Народная прыказка).*

ДАЎНО, яшчэ ў старажытныя часы людзі заўважылі вялікую сілу сонечнага сьвятла і на расьліны і на чалавека. Тагочасныя людзі, як вядома, лічылі сонца за самага старэйшага свайго бога. Яны маліліся сонцу.

Але мінулі стагодзьдзі. Чалавечы дапытлівы розум пачаў шукаць прычын сонечнай сілы. Вучоныя пачалі вывучаць сонца, дасьледваць яго ўплыў на жывыя організмы. Нарэшце стварылася цэлая навука аб лячэньні сонцам і г. д. Заместа несьвядомага пакланеньня сонцу, чалавек пачаў разумна яго выкарыстоўваць для свае патрэбы.

Вялікая сіла і карысьць сонца. Яго праменьні робяць самую вялікую работу ў кожнай часьціне ўсяго жывога.

Там, дзе няма сьвятла, дзе няма сонечных праменьняў, там ня можа расьці вялікай ніякая расьліна. Там пануе цьвіль і грыбы.

Сонечныя праменьні ня простыя; яны складаюцца з розных элемэнтаў, яны маюць розныя колеры.

У гэтых сонечных праменьнях ёсьць праменьні цяпла. Гэта яны награваюць зямлю. Гэта яны ўплываюць на рост жывых організмаў. Гэта яны паляпшаюць дыханьне чалавека і расьлін.

Сонечныя праменьні зьнішчаюць мікробаў. Чым больш у хаце сонечнага сьвятла, тым чысьцейшым будзе паветра і карысьнейшым для здароўя.

Старая прыказка праўду кажа: „Дзе рэдка бывае сонца, там часта бывае лекар“.

Пад уплывам сонца колер нашай скуры зьмяняецца, ён робіцца здаровым, смуглявым; скура робіцца тугою. А скура наша гэта абарона чалавека, якой адарыла нас прырода. Калі наша скура цэлая, тугая, здаровая, дык ніякі мікроб ня здолее пралезьці ў яе, і ў наш організм.

Скура ня любіць, калі за ёй не глядзець: забруджаваць яе. Вучоныя, напрыклад, рабілі такі досьлед: бралі трусіка і пакрывалі яго скуру лакам. Лак закрываў усе поры (малюсенькія дзірачкі) скуры і трусік гінуў.

Скура—наш вартаўнік, яна папярэджвае нас пра холад, сьпёку і боль.

Ува ўсіх краінах лечаць сонцам малакроўнасьць, сухоты і шмат іншых хваробаў лёгкіх і скуры.

Але трэба сонцам карыстацца ўмела і сьвядома. У іншым разе заместа карысьці будзе шкода.

Сонечныя ванны прымаць лепш за ўсё лежачы, пры гэтым галава павінна ляжаць трохі вышэй за тулава. На галаву трэба класьці мокрую хустку. Падстаўляць пад гарачыя праменьні сонца трэба па чарзе ўсё цела. Тады зьявіцца на целе роўная загара і скура будзе тугой і здаровай.

З кожным днём час прыманьня сонечных ваннаў трэба павялічваць і так можна дайсьці да 25—30 хвілін.

Вельмі доўга ляжаць на сонцы шкодна. Можна апячы скуру, можа здарыцца і сонечны ўдар.






*Апавяданьне А. Пальчэўскага*

*Малюнкі М. Філіповіча*

## I.



З усёю стройнасьцю і старанасьцю дзесяцігадовага хлапчука с к л а д а е Грышка дровы, н а с е ч а н ы я б а ц ь к а м. Не разглядае ён у бакі, а з пільнаю ўвагаю сочыць за кожным паленам, якія кладзе адно на другое. Часам ён сам з сабою разважае:

— Трэба тут падлажыць трэску, а то ніжэй трохі; гатовы абярнуцца яшчэ, а тады зноў нанава складай.

Раптам яго думкі абрывае брэх Бобіка. Грышка з дзіцячаю цікавасьцю выбягае на двор і бачыць, як Макрына, іх суседка, абараняецца ад сабакі, а Бобік усё з большаю злосьцю кідаецца ёй пад ногі.

Вось яна ўжо на ганку, вось яна скрыпнула дзьвярмі і зьнікае ў сенцах. Грышка пастаяў яшчэ хвіліну, пагладзіў падбегшага да яго сабаку, а пасьля завярнуўся і пашоў на працу. Грышка здагадваецца, чаго пашла Макрына. Так на пагулянкі, як Аўдоцьця ці Настуля, яна не ўчашчае да іх.

І Грышка не памыляецца. Праз некаторы час ён чуе голас:

— Грышка, Грышка, ідзі, сынок, сюды.

Паволі, не сьпяшаючы, ён выходзіць на двор і бачыць на ганку постаць бацькі, валасы якога кудлачыць вецер.

— Кідай складаць дровы, ды йдзі, дзіцятка, у хату.

— Я скончу, татка, ды йду.

— Няхай, сынок, нідзе дзенуцца, кончыш.

Неахвотна ідзе Грышка з павеці. Ваўчком паглядае на бацьку і ловіць яго зірк вачэй.

— Ідзі-ж, сынок, скарэй—усьміхаецца бацька.

Па тоне голасу Грышка адчувае зноў нейкую небясьпеку. Ён помніць, як яго клікаў бацька тады. Тое надоўга ўрэзалася Грышку ў памяць, а ён і ня быў вінен—яго падгаварылі і ён паслухаў.

О, Грышка добра ўжо вывучыў тон бацькавае гаворкі. Ён нават па хадзе, па рухах, па твары можа сказаць другім аб настроі бацькі. І зараз ён прыраўноўвае яго звычайную гаворку да цяперашняе і... знаходзіць розьніцу.

І хоць бацька з лагоднасьцю кліча Грышку, але ён падыходзіць да яго з асьцярогаю.

— Сьмялей-жа ты ступай! Навучыўся хадзіць, як стары,—прабуе жартаваць бацька.

Грышка ведае цану такім бацькаўскім жартам, але не здаецца адразу, не паказвае свае віны, свайго страху.

— Чаго там сьпяшацца...

У хаце Грышка застаў Макрыну. Яна сядзела на зэдліку і, размахваючы рукамі, апавядала нешта яго мацеры. Зьяўленьне Грышкі на парозе абарвала гаворку Макрыны.

— Зараз-жа даведаемся — пачуў Грышка з вуснаў мацеры.

## II.

— Нашто вы мяне клікалі?—спытаў спакойным, сьмелым голасам Грышка, ня даўшы яшчэ зачыніць дзьвярэй бацьку.

— Работа, сынок, ёсьць. Адсюль-адтуль ды прарвецца ліха. От Макрына прышла па справе, дык адшукай, сынок, мне папругу.

— Не маглі самі адшукаць, на гэта трэба адрываць яшчэ ад працы,—ні то пакрыўджаны, ні то са злосьцю адказвае Грышка. Ён добра разумее бацькаўскія прыёмы, але не паказвае віду на гэта.

— Яна, здаецца, пад палом.

— Пашукай яе там, сынок...

Грышка згінаецца і лезе шукаць.

Па загаду бацькі Грышка кладзе папругу на зэдліку, дзе сядзела Макрына, а сам становіцца тварам да Макрыны і бацькі. Макрына стаіць поруч з Язэпам, а маці Грышкі трохі воддаль ад яе.

— Ты бачыш, сынок, што гэта?

— Папруга,—сьмела адказвае Грышка.

— Дык от скажы нам, што ты рабіў дзе ўчора?

Грышка пачынае пералічваць сваю ўчарашнюю працу да малое макулінкі, але бацька гэтым не здавольваецца.

— А дзе ты быў адвячоркам?

— Пасьвіў сьвіньня...

— А як прыгнаў іх да хаты?

— Пільнаваў хаты, мама сказала.

Бацька ўсё больш і больш узмацняе сьледзтва, але і Грышка, навучаны ў мінулы раз сваёй адказнасьцю, не паддаецца так проста цяпер.

— А ты часам ня бачыў, хто ў Макрынін сад лазіў?

— Не, ня бачыў.

— А хто да цябе прыходзіў учора гуляць, як ты прыгнаў сьвіньня?—паварочвае бацька допыт па другіх выкрунтасах.

— Ніхто. Быў толькі Юзік Ігнасёў ды Антось Міхасёў, як ішлі па коні.

— Доўга яны гулялі? Куды ты з імі хадзіў?

— Нікуды я не хадзіў з імі, а ўвесь час быў пры хаце.

— А от цётка Макрына кажа другое. Яны ёй расказалі аб тым, куды вы хадзілі і як рвалі мак і моркву ў яе гародзе.

— Цётка кажа... Яны вам нагаворацъ, а вы хай-бы самі злавілі, упэўніліся і тады злодзеем называлі, — пярэчыць Грышка Макрыніным словам.

— Ты паменш, сынок, гавары, калі не ў цябе пытаюць,—напамінае бацька, трымаючыся за яго вуха.

— Я кажу, што ня лазіў, і ня лазіў,—праз сьлёзы апраўдваецца Грышка.

— А хто гэта сябе прызнае вінаватым? — ставіць пытаньне бацька.

— Міленькія мае, от на тую спробу, каб пашлі ды глянулі. Ня шкода тых яблыкаў, але што яны зрабілі з дрэвам?.. За галаву трэба хапіцца. Такія былі важныя два гукі маладое яблыні. І як яго другога ўзагнала аж на вяршок, каб аблупіць гэтакую лапу... Як сабе хочаце, суседзі, а я толькі кажу вам: трэба, трэба дзяцей ушчуньваць, не даваць ім вялікае вагі. Сёньня мне яны нарабілі шкоды, заўтра другім, а бацьком усё адказвай, чырваней за іх.

Гэтыя словы, як нажом, рэзнулі па целе Язэпа і ён пакрыўджаны адказаў:

— Я гэта і сам добра ведаю. Што вы мяне вучыце.

— Я ня вучу, я гэта толькі з узгавору напамінаю,—схапянулася Макрына.

— Чырванець за дзяцей, адказваць за іх учынкі?—да гэтага Язэп, бацька сваіх дзяцей, ніколі не дапусьціцца.

І яшчэ з большаю злосьцю ён ухапіў за другое вуха Грышкі, пакруціў яго да таго месца, пакуль ня трэснула штосьць. Тады выпусьціў з рук вуха, ухапіў папругу і з адчайнаю злосьцю апусьціў яе некалькі разоў.

Затупаў Грышка нагамі ад болі. Заліўся сьлязьмі горкімі ў роспачы, а ўсё-ж рашыў трымацца.

— Кажы мне зараз-жа: лазіў у гарод, ці не? Кажы, прахвост!..

— А вот вам... Кажу не, і не,— адпаліў Грышка.

— Ды ты гэтак бацьку, дык ты гэтак? Затое, што ён цябе ўзгадаваў?—І з большаю злосьцю, ужо не па скарзе Макрыны, а за абразу сябе, пачаў біць Язэп.

— Шалёны ты! Што ты робіш? Заб'еш! Хай цябе пярун заб'е,— кінулася на абарону маці.

— Адстань, адчапіся,—кажу.

— Рэж мяне гэтаю папругаю, а яго ня дам секчы бязьлітасна,

— Адступіся, кажу,—і бацька хапае Алену за каўнер кафтана і хоча адцягнуць ад Грышкі. Заступіўшы сабою Грышку, Алена адыходзіць з ім у бок.

„Будзе з гэтага вэрлаху бура“, мільганула ў Макрыны.

І калі ў хаце замітусіліся, яна паціху, няпрыкметна зьнікла з хаты. А Язэп яшчэ доўга, як няпрытомны ходзіць па хаце, ня можа прысьці да сябе. Яго дзесяцігадовы сын прабуе выступаць супроць бацькі з такім протэстам на пытаньні.

— Сам вінен, сам. Прыпомні ўсё і зразумееш памылку,—кідае, абціраючы фартухом Грышкавы сьлёзы, маці.

III.

Ціхім і няпрыкметным сядзіць у хаце Грышка. На першы погляд паказваецца, што ён сьпіць, прытуліўшыся ў кутку.



*Шалёны ты, што ты робіш!?—кінулася на абарону маці.*

Але не да сну цяпер Грышку. У галаве яго шмат думак, шмат пытаньняў, якіх ён сам ня можа разьвязаць, уразумець.

Думкамі ён пераносіцца ў той час дзяцінства, калі пачынала ў яго зьяўляцца памяць уяўленьня. Яму прыпамінаецца, калі бацька, пасадзіўшы яго каля сябе, расказваў розныя байкі, іншы раз страшныя, страшныя. Цяпер Грышка іх ня помніць, але гэта было нешта забаўнае, вясёлае.

А калі маці ў такі час адклікала за патрэбаю бацьку, дык ён вучыў тады яго, як адказваць на гэта маці. І Грышка адказваў:

— Мама, тата будзе са мною, а табе вось што—і ён паказваў маці, хітра складзеныя ў кулак, пальцы.

Маці круціла галавой, дакарала Язэпа за такое вучэньне, а ён, як бацька, як настаўнік, здаволены такімі прыёмамі, усьміхаўся і казаў:

— Падрасьце, паразумнее і ня будзе гэтага рабіць.

Думкі Грышкі пераносяцца з гэтага моманту яго выхаваньня на другі. Яму прыпамінаецца, як бацька ў летні час пасылаў яго ў гарод за рэпаю.

— Мама будзе крычаць, калі ўбачыць,—казаў Грышка тады.

— А ты зрабі, сынок, так, каб мама ня бачыла.

І Грышка выконваў сваё заданьне. За абедам бацька, гладзячы яго па галаве, гаварыў:

— Ён у мяне маладзец, сёньня рэпы мне з агароду прынёс.

Маці глядзела са зьдзіўленьнем на Грышку, а той, падбадзё,

рыўшы сябе ласкаю бацькі, апавядаў:

— Вы палолі грады, а я тату рэпу тады краў.

— Няможна так, сынок, маму абманваць: прывыкшы змалку красьці—злодзеем зробішся, як вырасьцеш,—вучыла маці.

І бацька ў такіх выпадках навучаў Грышку так:

— А ты скажы, сынок, маме: злавеце і тады злодзеем можаце называць.

Грышка паўтараў бацькавы словы, і яны абое сядзелі і сьмяяліся, цешыліся з свайго дзіцяці. Часта пасьля абеду, калі бацька хацеў палюбавацца з сына—ён загадваў яму зьбіраць на зямлі акуркі і, разьвярцеўшы іх, сыпаць тутун на стол. Затым бацька браў паперу, згортваў гэты тутун з стала,—круціў папяросу і закурваў. Сінія клубкі дыму павольна расплываліся, раскручваліся пад стольлю ў агульную паласу сіняватага туману.

Грышка стаяў і глядзеў на вынікі сваё працы. Ён назьбіраў акуркаў на цэлую папяросу і бацька цяпер курыць яе. Яму было радасна за сваю працу.

Грышку добра помніцца адзін момант з яго дзяцінства. Бацька тады быў у добрым настроі і вельмі ласкава гаварыў з ім. Грышка назьбіраў тады на цэлую папяросу акуркаў і бацька, закурыўшы, паклікаў яго:

— Ідзі, сынок сюды, я пагляджу, ці будзеш ты мужчынам?

І доўга пасьля стаяў як утрапёны Грышка, а бацька ўсё за гадваў:

— Плёвай, сынок, плёвай. Ты глынуў, сынок, дыму, дык ад гэтага табе і зрабілася дрэнна.

Пасьля ўжо Грышка чуў, як маці даводзіла бацьку шкоднасьць такога навучаньня, а ён, усьміхаючыся, паціху казаў, каб ня чуў Грышка:

— Не вялікае тут што. Падрасьце, — сам даведаецца пра шкоднасьць курэньня.

І Грышка, перабіраючы цяпер у сваёй галаве ўсё ранейшае, ніяк ня можа зразумець сваім дзіцячым розумам усё гэта.

— Тады бацька хваліў, калі я рваў рэпу, а маці ня бачыла. Вучыў, што трэба злавіць, а тады злодзеем называць. Чаму тады бацька сам сьмяяўся, калі я паказваў мацеры, складзеныя ім самім такія-ж кулакі? Застаўляў зьбіраць акуркі на папяросу, даваў зацягвацца мне. А калі цяпер я падняў, кінуты ім акурак і пацягнуў некалькі разоў, дык ён, паклікаўшы мяне, пачаў круціць за вуха і прыгаварваць:

— Малы ты яшчэ. Пракурыш бацькаву гаспадарку.

А тады я яшчэ меншы быў— думае Грышка. І яму цяпер крыўдна за такія словы бацькі. Ён хацеў-бы ўжо быць дарослым у вачох бацькі, а не такім малым, як ён яго лічыць.

Думкамі рознымі перапоўнена галава Грышкі.

лёг тварам да сьцяны і, ціха прытуліўшыся, змоўк.

У хату ўвайшла маці. Акінула позіркам пол,—Грышкі на ім ня было.

Падышла бліжэй да печы і, убачыўшы, сказала:

— Заснуў, мусіць.

Грышка не адазваўся. Яна пастаяла яшчэ хвіліну, а пасьля адышла ў другі бок і пачала рыхтавацца да абеду.

А Грышка гэтым часам на злосьць бацьку моцным тутуном, „мультанам", пускаў праз нос дым



*Ён так любіў яго малога, насіў, цешыўся...*

## IV.

Бацька доўга яшчэ ад злосьці ходзіць па хаце, курыць адну, другую папяросу, а пасьля выходзіць на двор, ня кажучы нічога.

Маці пашла яшчэ раней за сваімі справамі, і Грышка цяпер застаўся адзін у хаце.

Ён паціху праходзіць некалькі разоў па глінянай зямлі з аднаго кутка ў другі. Пасьля паднімае акурак бацькавае папяросы, у якім яшчэ тлее агонь; ён аглядае акурак з усіх бакоў, пакручвае, а затым бярэ ў рот і... зацягваецца.

Раптам у сенцах скрыпнулі дзьверы. Доўга ня думаючы, ён ускочыў на пол, а тады на печ, і думаў: „Няхай-жа ведае, як біць. Накуруся добра, дык папомніць нечага ён гэты дзень. Можа захварэю ад гэтага курэньня, як казаў настаўнік, дык пацацкаецца трохі хаця"...

Грышка ніяк ня можа згадзіцца, каб яго білі, як малога. О, ён ужо сталы хлопец! Цяпер ён ня будзе скакаць на аднэй назе ад радасьці, чакаючы бацьку з кірмашу. Адышоў той час для яго, ён цяпер ужо ня дзіця.

... О, Грышка ўжо цяпер рослы хлопец! Ён сьмела курыць, нават не на печы, а ў адрыне, лежачы на сухім, пахучым сене.

І да Грышкі ўсё больш і больш пачынаюць даносіцца нейкія гукі, мільгацець прадметы перад вачмі,

Ён прыслухоўваецца, каб па-чуць гэтыя гукі, але ўсё зьліваецца ў адзін гул. А прадметы мільгаюць з хуткасьцю, якая не дае магчымасьці воку адрозьніць адзін прадмет ад другога.

І раптам здаецца Грышку, што каля яго сядзіць маці. Яна ласкава гладзіць аго па галаве, так як гладзіў некалі ў дзяцінстве бацька.

Грышка, расчулены ласкамі маткі, мацней туліцца да яе, яна апавядае яму пра бацьку:

— Ён так любіў цябе малога: насіў, цалаваў, цешыўся з твайго росту, хваліўся табою перад мужчынамі.

— Мама, а чаму ён біў мяне?— пытае Грышка. Сваім дзіцячым розумам ён ніяк ня можа зразумець, як гэта могуць у адным целе ўжывацца любоў з заміла-ваньнем, разам з тым злосьць, зьненавідзь.

— Сынок, ты вінен быў, дык ён і біў цябе; ён бацька і адвучваў цябе ад дрэнных прывычак.

— А помніце, як ён сам вучыў мяне гэтым прывычкам, калі я быў яшчэ малым?

— Ён думаў, сынок, калі ты падрасьцеш, дык ня будзеш рабіць гэтага.

А ты лазіў у чужы сад усёроўна, як у свой.

— Мама але-ж мяне не злавіў ніхто тагды.

— Бачылі, сынок. Даказалі людзі, а гэта ўсё роўна, што і злавілі,—і маці гладзіць Грышкаву галаву, расчэсвае пальцамі яго мяккія валасы.

Ад такое ласкі маткі Грышку робіцца радасна. Яму ўспамінаюцца апошнія дні бацькавага жыцьця. Зімою таго-ж году Грышка застаўся адзін з маткаю. Цяжка было матцы і яму.

Расчулены, Грышка ўстае з вылежанага на сене месца, туліць да сябе матку і моцна, моцна яе цалуе да тых пор, пакуль маці не перарывае яго:

— Сынок, мы гарым... чуеш пах дыму? ад твайго акурку недзе загарэлася сена.

Грышка абарочваецца назад і бачыць невялічкую пляму агню з дымам. Ён хоча ўсхапіцца, кінуцца на гэту пляму сваім целам, закрыць яе ад вачэй маткі. Але ногі Грышкі на гэты раз не датрымліваюць цяжару цела і... ён у зьнямозе ад спалоху зноў кідаецца на гэтым месцы.

V.

— Рыгорка, сынок, устань—будзіць маці,—згарыш яшчэ, сьпячэш сабе бок, дзіцятка.

— Мамка, я скіну рубашку і вы накіньце на агонь, дык ён патухне.

Моцна сьпіць, як пасьля лазьні,—усьміхаецца бацька з-за стала.

— Разумны ты вельмі! можа мазгі адбіў?! Бач, нешта гаворыць праз сон.

— Будзе жыў.

— Злазь, сынок, ідзі сілкавацца, ды пойдзеш дровы складаць,— кажа маці.

— Мама, а дзе я? Хто гэта за мужчына сядзіць у нас за сталом?

— У хаце, сынок, ты. Гэта ж тата твой.

— Тата? А як ён прышоў з таго сьвету?

— Давёў да шалёнства хлопца,—абярнуўшыся тварам да стала, прамовіла маці.—Рыгорка, ён нікуды не хадзіў, гэта ты сьніў, сынок.

— А ці затушылі сена ў адрыне? Яно загарэлася ад акурка,— ужо седзячы на ўскраі печы, пытае Грышка.

— Глядзі можа там анучы гараць, дык яму сьнілася,—гаворыць бацька.

— Затушылі, сынок, сена, затушылі. Ідзі абедай, а то зьесьць бацька ўсё,—падганяе маці, а сама гэтым часам ускоквае на палок, а адтуль на печ.

— Такі-ж гарыць?—і маці тушыць рукою анучу, скідае насьлінены канец акурка.

— Хаця каб ты ня сьпёк цела? Гэта-ж ануча ад чарэні загарэлася,—сказала, наперакор свайму здагадваньню, маці.

Грышка паволі злазіць з печы аглядаецца навакол, прыпамінае толькі што перажытае.

— Ідзі, сынок, памыйся, а то ў цябе чорныя рагі заметны на шчоках,—напамінае маці.

— Можа ты, Рыгорка, гневаешся?—зварочваецца бацька.

— Падыходзь бліжэй,—шэпча маці, ды прасі, каб дараваў бацька, каб злосьць у яго адышла.

Грышка ведае, што значыць гэты бацькаў зварот, і як трэба дабіцца ласкі ў бацькі. Ён бярэ бацькаву руку, міжвольна яго пальцы на далоні бацькі адшукваюць цьвёрдыя мясьціны, і Грышка цалуе ў валасатую паверхню рукі.

Бацька гладзіць Грышку па галаве, як некалі, і пытае:

— А скажы цяпер, сынок, ці лазіў ты ўсё-такі ў сад Макрыны? Яна казала вы наламалі шмат гальля там. Ці праўда гэта?

Нечаканым было гэта для Грышкі. Ня думаў ён, што бацька спытае яго зноў аб тым самым.

— Лазіў, але мяне ніхто не злавіў. Вы некалі казалі, раз цябе ня зловяць, дык ты ўсё роўна, як і ня лазіў,—пасьля некаторага раздум'я, сьмела адказаў Грышка.

— А так ня можна, сынок, рабіць.

— А я і курыў яшчэ,—як-бы болей хацеў дапячы бацьку Грышка.

Яму хацелася цяпер выказаць усе свае злыя ўчынкі.

Усё стала зразумелым для бацькі. Мінулае выхаваньне Грышкі паўстала перад вачмі Язэпа.

— Тата, але я болей ня буду рабіць гэтага, хоць вы некалі і вучылі мяне. Я вельмі страшны сон сьніў на печы аб пажары праз акурак.

— Не рабі сынок, гэтага, не рабі,—і бацька моцна пацалаваў Грышку ў галаву,—а я больш ня буду вучыць цябе на гэта.

За абедам Грышка расказаў свой сон. А за вакном сьвяціла, схіленае з паўдня, сонца, усьміхалася сваімі жнівеньскімі праменьнямі.



# Менск у рыштаваньнях

*НАРЫС Я. МАЎРА*



*Хутка пабягуць па Менску трамваі...*

Жыў-быў на сьвеце пастушок. Усё сваё жыцьцё ён пасьвіў авечкі. І вось ён неяк ці то паскардзіўся на свой лёс, ці нешта такое падумаў або сказаў—і заснуў пад кустом. Калі ён прачнуўся, дык убачыў, што ніякіх авечак няма, побач нейкія будыніны, а ля яго ляжыць прыгожае суконнае адзеньне... з воўны яго-ж авечак.

Такую, прыблізна, казку прыдумалі калісьці нашы дзяды. Казка, як казка, у якой цуды робіць нейкі чорт. І той, хто выдумаў гэтую казку, ніколі ня думаў, што калі-небудзь і дзе-небудзь можа быць нешта падобнае.

А вось другая казка, новая, леташняя.

Жыў-быў у Менску чалавек. Жыў ён у мураваным доме на трэцім паверсе. У тым пакоі, дзе ён звычайна сядзеў і працаваў, вакно выходзіла на вуліцу, а з кухні вакно выходзіла на дзядзінец, у сад. Гэтае вакно было невялікае, вузкае, ды яшчэ заваленае розным барахлом, таму чалавек рэдка падыходзіў да яго. Праз гэтае вакно дабра былі відаць сад, суседнія гароды, хаты. Чалавек даўно ўжо тутака жыў, добра ведаў гэтае месца, быў заняты і зусім ня цікавіўся глядзець на яго. Да таго-ж на лета ён выехаў з гораду, вярнуўся ўвосень, бегаў па сваіх справах, ня думаў пра сад ды суседні агарод.

І толькі ў лістападзе неяк трапілася чалавеку паглядзець у гэтае сваё вакно. Зірнуў і адхіснуўся. Што за ліха такое? Працёр вочы, зноў зірнуў — тое самае: коміны, будынкі, камяніцы. Адкуль яны ўзяліся?

Спусьціўся ўніз, пашоў у сад. Бачыць: паловы саду, дзе ён яшчэ ўвесну гуляў,—няма. Там, дзе



*Кроку нельга ступіць, каб не напароцца на рыштаваньні...*

быў плот суседняга агароду, цяпер сьцяна. Прыпомніў тады чалавек казку пра пастуха і сказаў:

—Відаць, Савецкая ўлада можа рабіць цуды ня горш за чарцей! А калі хто захоча праверыць гэта, хай загляне на Мацьвеяўскі завулак, ад Савецкай вуліцы, каля чыгуначнага мосту. Адтуль ён убачыць адразу 4 фабрыкі: дзьве вялізных і дзьве меншых, якія зьдзівілі нашага чалавека.

Сьмела можна сказаць, што ў Менску знойдзецца шмат тысяч людзей, якія нават ня ведаюць, што ў гэтым кутку вырасьлі чатыры фабрыкі. Больш вядомы заводы на Ляхаўцы (скураны, дражджавы, мэталёвы). Гэты куток зусім нагадвае частку вялікага эўрапэйскага гораду. Нядаўна тутака былі сяк-так пабудаваныя брудныя і нязграбныя прыватныя заводы, а цяпе-



*А па вуліцах ні прайсьці, ні праехаць нельга...*

рака на сотні мэтраў цягнуцца дасканалыя новыя карпусы. І, апрача гэтага, яшчэ будуюцца новыя гмахі. А колькі фабрык параскідана ў іншых мясцох гораду! Фабрык новых, якія зьявіліся за



*Такім будзе выглядаць Унівэрсытэцкі гарадок.*

апошнія некалькі год. І лекавая, і лямцавая, і цукерачная, і абуткавая, і швэйная, і галянтарэйная, нават хлебная і г. д., і г. д.

Не адстаюць і жыльлёвыя будынкі. Кроку нельга ступіць, каб не напароцца на рыштаваньні. Невялікія дамы лічыць ужо ня прыходзіцца. Растуць дамы па 40, 60 і нават 140 кватэр. У такім доме зьмесьціцца 140 сем'яў, іначай кажучы, можна было-б зьмясьціць вялікую вёску ў 140 двароў.

Але сталіца Беларусі так шпарка расьце, што і такое будаўніцтва ня можа яшчэ задаволіць патрэбы насельніцтва.

А вось унівэрсытэцкі гарадок. Другі год ужо, як ён будуецца, і яшчэ пройдзе год ці два пакуль ён увесь будзе скончаны. І тады будынкі Беларускага Унівэрсытэту будуць лепшымі ў СССР. Бо Маскоўскі, Ленінградскі, Харкаўскі і інш. унівэрсытэты будаваліся шмат гадоў назад, а таму ўстарэлі.

На Савецкай вуліцы, супроць унівэрсытэту, адбываецца нешта нязвычайнае. Дзесяткі дамоў разбураны, тырчаць печы, кроквы, крушні цэглаў, дахі зьвернуты на бок. Ні то пажар быў, ні то вялікі разгром. Але людзі глядзяць на гэты разгром і цешацца: гэта руйнуюцца нікчэмныя, старыя хаты, а заместа іх будзе вялізны *Дом Ураду*, дзе зьмесьцяцца ўсе ўрадавыя ўстановы сталіцы Беларусі.

А па вуліцах ні прайсьці, ні праехаць нельга. Усе яны перакапаны ўздоўж і ўпоперак нейкімі акопамі. Вайна дый годзе!

Пад усімі вуліцамі будуць пракладзены трубы. Праз іх пацячэ ўвесь бруд з гораду. Ня трэба будзе валаводзіцца з ім, вывозіць. Да 1-га лістапада будзе пракладзена 25 кілёмэтраў такіх труб

Каля унівэрсытэцкай бібліотэкі зраваюць гару, пракладваюць рэйкі. Такія самыя рэйкі пракладваюцца і ў іншых канцох гораду. Хутка *пабягуць па Менску першыя трамваі.*

Калі які-небудзь Менскі жыхар, прапусьціўшы гады са два, вернецца назад, ён не пазнае гораду. Мы добра памятаем, як перад вайной ранейшая ўлада гораду меркавала будаваць трамвай, каналізацыю. Меркавалі год, другі, пяты ды так нічога і ня вымеркавалі, хоць і багацей былі за нас. А працоўная ўлада ўжо паставіла ўвесь горад дыбам.

На нашых вачох адбываецца казка, але іншая, пэўная, рэальная. Дзесяткі год ужо ў эўрапэйскіх гарадох ходзяць трамваі, сотні год існуе каналізацыя і іншыя паляпшэньні. А наш царскі ўрад будаваў царквы ды панскія палацы.

Цяпер мы паставілі сабе задачу ня толькі дагнаць, але і перагнаць заграніцу. Шмат людзей яшчэ ня вераць гэтаму, усьміхаюцца.



*Ні то пажар быў, ні то вялікі разгром...*

— Куды нам цягацца з імі!

Але мы ўжо за гады тры зрабілі столькі, колькі раней за гадоў 10. За бліжэйшыя пяць год мы яшчэ пасунемся на гадоў 20—30. Чаму ж нам і не перагнаць?



# УВАСКРАШЭНЬНЕ МЁРТВЫХ

*А. МАСЛОЎ.*



*Адрэзаная галава сабакі, злучаная з апаратам, які падтрымлівае пульсаваньне крыві ў галаве.*

## ЖЫВАЯ САБАЧАЯ ГАЛАВА.

Нядаўна двое рускіх вучоных зрабілі самы цікавы вопыт: яны адрэзалі ў жывога сабакі галаву і пры дапамозе знарочыстых прыладаў наладзілі праз кравяныя трубачкі крывязварот у гэтай галаве. Да гэтага вопыту рыхтаваліся $4^1/_2$ гады.

Калі ўсё было зроблена і адрэзаная галава ляжала на талерцы, да ее крывяносных трубак (сасудаў) былі падведзены гумавыя трубкі, праз якія к галаве прылівалі кроў.

Праз 20 хвілін галава пачала аджываць; праз поўгадзіны яна была ўжо зусім жывая: вочы расплюшчваюцца і заплюшчваюцца, скура калоціцца, калі дакрануцца да валаскоў на губах ці бровах.

Такая галава трымала сябе, як жывая. Калі ёй далі кавалачак сыра, дык яна праглынула і сыр усьлед-жа вышаў з канца стрававода. Калі галаву мацалі рукамі, яна скалілася і нібы зьбіралася брахаць.

Тыя-ж вучоныя прарабілі яшчэ адзін цікавы вопыт—*сьмерць сабачай галавы*. Варта было толькі адняць гумавыя трубкі ад галавы; —спыніць прыцёк крыві, як галава пачынала шырока раскрываць рот, вочы пачыналі рабіцца мёртвымі і шклянымі. Прыходзіла сьмерць.

Якія-ж вывады можна зрабіць з гэтых вопытаў?

А вось якія.

1. Кожная частка цела, нават такая важная, як галава, можа жыць асобна ад усяго організму.

2. Для таго, каб магла жыць частка цела, ня зьвязаная з усім організмам, трэба даць гэтай частцы правільнае кармленьне.

Галава сабакі пры гэтых вопытах магла жыць $3^1/_2$ гадзіны і толькі пасьля гэтага часу памірала.

Але не адна галава можа жыць бяз сувязі з усім організмам.

Профэсару *Краўцову* ўдалося пратрымаць жывым у працягу некалькіх тыдняў адрэзаны палец. На пальцы рос кепець, выступаў пот і г. д.

## ЯК ЖЫВЕ ЦЕЛА?

Каб зразумець усе гэтыя вопыты, трэба ведаць, што робіцца ў целе ўсялякай жывёлы.

Пачнем з харчаваньня. Страва, праходзячы праз страўныяворганы (рот, страўнік, кішкі), паволі ператвараецца ў рэдкую кашу, кішкі ўцягваюць розныя сокі з гэтай кашы, і гэтыя сокі пападаюць у кроў.

Сьціскаючыся і пашыраючыся, сэрца працуе, як насос: кроў з яго разыходзіцца па ўсім целе і зноў назад прыходзіць, абмыўшы усе лапінкі цела.

Гэтак па ўсім целе разносіцца прынятая кішкамі рэдкая страва. Але гэтага мала: частка крыві з сэрца пападае ў лёгкія, дзе ўбірае ў сябе з паветра тлен; такім чынам, разам з стравай разносіцца па целе і тлен. Тлен, пападаючы ў кожную каморку (клетку) цела, паволі акісьляе страву, якая туды папала. З гэтай прычыны ў каморцы ўтвараецца цяпло і вуглякіслы газ.

За кошт гэтай цяплыні і жыве організм. Вуглякіслы газ выходзіць пры дыханьні вон.

Апроч гэтага ў кожным організьме ёсьць цэнтральная нэрвовая сыстэма. Яна складаецца з клетак, якія ёсьць у галаўных і сьпінных мазгох, і тонкіх нэрвовых нітак, злучаных цэлымі групамі ў нэрвы.

Па гэтых нэрвах з усіх месц організму перадаюцца паведамленьні аб розных зьявах на організьме ці ўнутры яго (баліць што ці бачым што, чуем і г. д.). На кожную зьяву (раздражэньне) нэрвовыя клеткі даюць адказ, пасылаючы па другіх нэрвах нібы загады да тых ці іншых частак цела.

Возьмем такі прыклад: у час гульні хто-небудзь моцна выцяўся; ён адчуў боль. Гэты боль зьявіўся вынікам раздражэньня, якое атрымала цела і перадало нэрвовым клеткам; зараз-жа гэтыя нэрвы адказалі на моцнае раздражэньне—удар: рукі схапіліся за ўдаранае месца, твар скрывіўся, з лёгкіх вырвалася паветра і ўзварушыла галасавыя органы, ад чаго пацярпеўшы закрычаў: „ой, баліць!" Нарэшце з вачэй пацяклі сьлёзы.

У мазгох ёсьць клеткі, якія загадваюць усёй работай організму; тут-жа месьціцца і знарочысты цэнтр клетак, якія загадваюць сэрцам: ён называецца „жыцьцёвым пунктам". Калі толькі яго папсаваць, дык сэрца спыняе сваю работу, кроў ня йдзе па целе: у целе няма харчы, няма тлену, а ёсьць многа вуглякіслага газу; акісьленьне стравы ў ім паступова спыняецца і цела ледзянее. Прыходзіць сьмерць.

Сьмерць можа прысьці, калі папсаваць якія-небудзь важныя органы: мазгі, лёгкія, сэрца і інш.

## ЦІ МОЖНА ЎВАСКРАСІЦЬ ЧАЛАВЕКА?

У рэлігійных забабонах розных народаў вельмі пашыраны казкі пра ўваскрашэньне.

Выдуманы хрыстос, як вядома, згодна казак, таксама ўваскрос.

Ці так гэта было?

Пачнем з тае-ж сабачай галавы, пра якую мы казалі вышэй. Для таго, каб уваскрасіць мёртвую

галаву, трэба было поўгадзіны пры дапамозе асобных прыладаў ажыўляць ее.

Хоць і рэдка, але ўсё-ж вучонымі праводзіліся вопыты ўваскрашэньня чалавека.

Вось як апісваецца адзін з такіх вопытаў. Справа гэта была ў Амэрыцы, даўно ўжо. Суд прысудзіў павесіць чалавека (тады ў Амэрыцы не забівалі яшчэ людзей на электрычным крэсьле). Пасьля пакараньня асуджанага, дактары паспрабавалі ажывіць гэтага чалавека. Яны дасьледвалі ўсе часткі цела чалавека і знайшлі, што яны не папсуты.

Пачалі яны мерцьвяка расьціраць, рабіць штучнае дыханьне, электрызаваць. Мінула гадзіна, другая, трэцяя...

Нарэшце чалавек паварушыў пальцамі. Зрэнкі вачэй пашырыліся. Але судзьдзі забаранілі ажыўляць.

Праз некалькі гадзін дактары зноў пачалі свой вопыт. Усе думалі, что ўжо нічога з гэтай спробы ня будзе.

Але вось праз некалькі гадзін чалавек зноў паварушыў пальцамі, сэрца яго пачало ледзь чутна біцца. Нарэшце ён уздыхнуў. Яшчэ трохі працы і чалавек аджыў-бы, але судзьдзі зноў забаранілі канчаць работу.

Такім чынам, аджыўленьне ў некаторых выпадках рэч мажлівая, але для гэтага трэба, каб усе органы былі цэлымі.

Нічога падобнага ня было ў тых выпадках уваскрашэньня, якія апісваюцца ў царкоўных казках. Там, напр., гаворыцца, што Ісус уваскрасіў Лазара пасьля таго, як Лазар праляжаў больш за тры дні і трохі падгніў. Пэўна-ж усё гэта фантазія.

Бываюць выпадкі несапраўднай сьмерці. Калі чалавек хварэе на *летаргію* і сьпіць засаб некалькі дзён і нават тыдняў.

Такія людзі проста ачуньваюць і ўсё.

Я. Івашын.

## КАЛІНА.

*Між лясоў на шырокай даліне*
*стаяла красуня-каліна,*
*аздоблена лісьцейкам гожа,*
*красавалася міла, прыгожа.*
*І зьвісалі ад кветак галіны.*
*І ўцехаю зьзяла каліна...*
*Падкралася хмурная восень,*
*што муць наганяе на просінь.*
*Неспакойна сталася ў полі,—*
*то вецер сярдзіта скуголіў.*
*Свавольны і зьлючы быў вецер;*
*гайдаў на каліне ён вецьце.*
*Зажурыла каліна у полі,*
*губляючы лісьцейка з гольля.*
*Надыйшла ўжо й зіма—*
*халадуха,*
*А за ёю мароз, завіруха.*
*За зімою адвечнай чаргою,*
*нясучы кветкі й радасьць з*
*сабою,*
*прыляцела вясна-чараўніца...*
*Напілася вадзіцы крыніца.*
*І каліне зноў радасна стала,*
*што аздобу вясною прыдбала.*

МАЛАДЫМ ГАСПАДАРОМ

## Гной з торфу

Торф ужываецца на ўгнаеньне ў 4-х выглядах: 1) Вільготны, але праветраны торф (які паляжаў каля году пасьля капаньня). 2) Тарфяны гной, які будзем мець з таго-ж торфу, калі яго прапусьціць праз хлеў. 3) Тарфяны гной, які ўтвараецца ад мохавай тарфянай падсьцілкі і 4) у выглядзе тарфяных кампостаў.

1. Самы просты спосаб для падрыхтоўкі тарфянага гною— гэта праветрываньне торфу. Для гэтага вакапаны торф складаецца ў кучы і пакідаецца тут-жа на балоце, дзе ён ляжыць каля году. Яго трэба калі-ні-калі перакопваць-перамешваць рыдлёўкай. Зімою гэты торф вывозіцца на поле і сенажаці, дзе раскладаецца кучкамі. Як гной, торф за зіму робіцца мяккім і вясной лёгка раскідаецца на полі і лёгка запраўляецца плугам ці бараной. Торфу ўносіца 2400, 3600 і 4800 пудоў на дзесяціну. Пад жыта торф кладзецца разам з гноем.

2. Лепш, калі гэты торф, падсушаны на паветры, прапусьціць праз хлеў: яго пластамі ў 2—3 вяршкі кладуць у катухі. Торф, калі перамяшаецца з гноем, дык будзе добрым угнаеньнем.

3. Самым лепшым угнаеньнем лічыцца тарфяны гной, які атрымліваецца з мохавай тарфяной падсьцілкі.

4. Тарфяныя кампосты складаюцца з торфу і мешаніны вапны, фасфарыту, попелу, гною і інш. Гэтыя кампосты па сваёй каштоўнасьці ня горшыя за гной. Кампосты робяцца так: кладуць торф у кучу шырынёю $2^1/_2$ аршыны і вышынёю ў $2^1/_2$ аршыны; даўжыня кучы залежыць ад колькасьці патрэбнага гною, трэба болей—куча робіцца даўжэйшай, меней—карацейшай. Куча павінна мець скат на абодва бакі, як страха. Пласт торфу праз $^1/_2$ аршына перакладаюць вапнай ці попелам, або фосфарытам (тады бяз вапны і попелу), ці проста перакладаюць пластамі звычайнага гною.

У кампост ідуць усякія адкіды гаспадаркі: сьмецьце, памы, косьці, рогі, пер'е, пілавіньне, стружкі, сажа, попел і наогул усё непатрэбнае ў гаспадарцы.

Кампосную кучу трэба калі-ні-калі палiваць вадою ці гнаёвай жыжкай (праз 2—3 дні, і перакопваць. Месца для кучы выбіраецца на ўзгорку, сухое, цяністае, з шчыльным грунтам.

Куча пры добрым доглядзе, праз год, а часам і раней, дае добры, гатовы кампост, які дае карысьці больш, чым гной.

Вось просты спосаб мець добры тарфяны гной.



# АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ СЁМУХА.

Сьвяты рэлігійныя, галоўным чынам, узьніклі ў старажытныя часы на грунце гаспадарчай дзейнасьці людзей. З гэтымі сьвятамі супадаюць найбольш важныя моманты гаспадарчага году: пачатак сяўбы, жніво, збор ураджаю і г. д.

Да ліку такіх рэлігійных сьвят належыць і сёмуха або тройца.

Папы кажуць, тройца ўведзена ў гонар 3-х асоб хрысьціянскага бога: айца, сына і сьвятога духа.

Па вучэньню царквы, гэтыя тры асобы жывуць разам у выглядзе аднаго бога, але ў той-жа час жывуць і паасобку, розна. Якім чынам гэта можна так жыць, папы і самі не разумеюць, калі ў іх папытацца. Але такая папоўская выдумка ўсё-ж адурманьвае цёмных людзей: шмат хто з старых людзей верыць папоўскім хлусьням.

Якім-жа чынам у папоў зьявілася такое вучэньне?

Доўгі час папы спрачаліся паміж сабою аб тым, ці раўня хрыстос богу, ці толькі падобны на яго. Бачыце, якія дурныя спрэчкі, бо сапраўды-ж, дык ніякага ні бога, ні хрыста ня было і іх ніхто ня бачыў.

У 325 годзе на ўсяленскім саборы ў г. Нікку папы прышлі да згоды па гэтым пытаньні, бо спрачацца далей было нявыгадна з тае прычыны, што гэтыя спрэчкі сталі пранікаць у народныя гушчы, пагражаючы царкве расколам. На нікійскім саборы папы парашылі так, што хрыстос—бог і чалавек адначасова. Вот яно як рабілася: пастанавілі і баста.

Але не пасьпелі папы памірыцца, як узьніклі новыя непаразуменьні. Пад уплывам паганскіх рэлігій пачало сярод хрысьціян пашырацца вучэньне аб тройчнасьці бога. „Тройца“ была вядома яшчэ ў глыбокай старажытнасьці. Эгіпцяне мелі Азірыса—бога-айца, Ізыду—матку божую і Гаруса—сына божага. У індусаў тройца складалася з багоў: Брама, Вішну і Шыва. Яўрэйская рэлігія ведала таксама тройцу.

Гэта паганская вера ў божую тройцу не магла загінуць у першыя вякі хрысьціянства. Папом прышлося пайсьці на ўступкі паганскай тройцы. І вось праз 56 год пасьля Нікійскага сабору, на ўсяленскім Константінопальскім саборы была ўстаноўлена і хрысьціянская тройца. Роўнапраўнымі членамі тройцы сталі: бог, хрыстос і да іх прышпілілі сьвятога духа, якога малююць звычайна як голуба. Чаму-ж бо птушкі ня маюць права мецьсвайго кандыдата ў нябесным парляманце...

Як відаць тройца выдумана самімі папамі.

Хрысьціянскае сьвята тройцы саўпала ў славян з сьвятам вясны. З вясновых забабонаў старажытных славян у тройцын дзень захаваліся памінкі пакойнікаў і пакланеньне бярозцы. Веруючыя на тройцу ўпрыгожваюць хаты і двары бярозкамі і ў „духаў дзень“ памінаюць памёршых. У старажытныя часы на гэтых памінках спраўлялі „русалкі“ паганскія рэлігійныя скокі і гульбішчы. Хрысьціянскія папы іх (гэтыя гульні) залічылі ў разрад „чартоўскіх гульбішч“. У некаторых мясцох на тройцу прыносяць у лес яду бярозцы, упрыгожваюць яе стужкамі, водзяць навокал яе хараводы са сьпевамі, а ўночы раскладаюць агонь і пераскакваюць праз яго.

Адсюль таксама нятрудна заўважыць у гэтых забабонах рэшткі паганскага пакланеньня дрэвам і сьвяшчэнным гаём. У некаторых дзікунскіх народаў сьвяшчэнныя гаі захаваліся і цяпер.

Вось сутнасьць і пахаджэньне сьвята тройцы. Піонэры гэта павінны ведаць. Яны павінны весьці рашучую барацьбу з высякаьнем некалькіх мільёнаў маладых бярозак на тройцу. Яны павінны растлумачваць сялянам пахаджэньне гэтага сьвята. Павінны тлумачыць, якую шкоду прыносіць зьнішчэньне такой колькасьці лесу, і прываблiваць усіх дзяцей і дарослых насаджваць і ахоўваць лес, піонэры павінны змагацца з рэлігіяй—дурманам працоўных.



*Замест таго, каб насаджваць дрэвы, несьвядомыя людзі ў час сёмухі зьнішчаюць марна маладыя дрэвы.*

## *Больш ня зьнішчаюцца дрэвы.*

*Звычайна кожны год сяляне нашай вёскі зьнішчаюць масу маладняку ў час сёмухі. Летась піонэры павялі шырокую агітацыю супроць гэтай шкоднай справы. Сяляне паслухалі піонэраў і ніхто ня высек ніводнай бярозкі. Заместа гэтага сяляне летась шмат насадзілі дрэў ля сваіх хат.*

Піонэр **М—ка.**

в. Кабыльле, Ляднянскага раёну.



# ПЕРАМОГА.

*(Да дню 11 ліпеня).*

Кругом гараць дымяцца вёскі...
Чутны палякаў адгалоскі.
Ніяк ня сьціхне страляніна.
Рабуюць ў вёсцы селяніна...
Кругом пажар, кругом гарыць...
З усходу коньніца ляціць!
Кінуўшы вёску рабаваць,
Палякі сталі уцякаць...
Ідуць чырвоныя палкі,
Блішчаць сталёвыя штыкі.
Палкі сялян і беднаты!
Пан, дай дарогу! раз, два, тры!

* * *

Чырвоны сьцяг іграе хварбай,
Ён зьвіс над хатай мужыка,
Гэта адзнака войск чырвоных,
Тут штаб чырвонага палка.
І сьціхла ўсё. Заціхлі стрэлы.
Патухлі хаты беднякоў.
Ўжо не красуе арол белы
Праклятых гэтых палякоў!

*А. Мацэральнік.*

# На сенажаці.



Толькі пырснулі
Сонейка косы
На зялёны дыван-сенажаць,
А ўжо буйныя пацеркі-росы
Дыямэнтамі зьзяюць-гараць.
Замільгалі
Зялёныя хвалі...
Косы блíснулі белым агнём,
У мурог упіліся заўзята
І трава б'е паклоны касцом.
Пошчак птушак
І сьвежае раньне...
Сёньня праца ня ломіць сьпіны,—
Расьцьвіла кветкай радасьць на тварах,
Бо мы вольнага краю сыны!..
Вунь дзяўчаты
Варочаюць сена—
Звонкай радасьцю песьні зьвіняць.
Сьпеў бадзёрыць касцоў працавітых
І калыша прастор—сенажаць.
Сонца зьвесіла
кудры над лесам,
І цалуе траву агнявей.
Заскрыпелі вазы па дарозе,
Галасы па-над лугам званчэй.

*Я. Івашын.*



# ВАРАБЕЙ

*М. Прышвін*

**КАЛІ бывала ў бабкі Даміцэлі пад акном высьпее маліна, дык, так і глядзі, вараб'і пачынаюць круціцца,—і чарадамі на маліну. Бабка крычыць дзеду:**

**— Зладзеі!**

**А дзед газэту чытае сабе ў мяккім крэсьле, ня хочацца яму ўставаць вараб'ёў ганяць, і ён адказвае бабе:**

**— О-ой...**

**Памыкае дзед, думае, так сабе яно пройдзе, а бабка трываць ня можа гэтага «Ой» і крычыць:**

**— Што ты войкаеш, бі скарэй, бі іх!**

**Так яно заўсёды было: бабка:**

**—Зладзеі! Дзед:—О-ой... Бабка— Бі! А я крычу:**

**— Вара-б-ей! Ого-го... Вара-б-ей! Дзядуня, варабей!**

**Мы з дзедам адчыняем вакно і шпурляем чым-небудзь у маліну, часьцей бывала, нажом. Вараб'і адлятаюць і ўсе радком садзяцца на шчыкетах.**

**— Ідзі,—скажа мне дзед,—шукай нож.**

**Я з радасьцю бягу ў малíньнік, нібыта ножык шукаць, а сам пад кусты і— хап, хап, у рот скарэй лепшыя ягады.**

**— Ты дзе?—турбуецца бабка.**

**— Тут,—аказваюся з малíньніку.**

**— Што ты там робіш?**

**— Ножык шукаю.**

**Але бабка хітрая, згледзела і крычыць:**

**— Злодзей!**

**— О-ой!—адгукваецца дзед.**

**— Бі, бі!**

**А я з малíньніку:—Варабей, дзядуня, варабей!**

**І барджэй бягу падаваць яму ножык.**

**Вось ён стаіць ля вакна, працірае акуляры, адзяе іх, прыглядаецца, пытае:**

**— Ды дзе-ж гэта зладзеі, я нешта ня бачу?**

**— Вот ён,—паказвае яму бабка на мяне:—гэта самы галоўны наш варабей.**

# ПТУШКА Ў КЛЕТЦЫ

*А. Нявераў*

Бацька прынёс з рынку жоўтую клетку з тоненькіх дубчыкаў. У клетцы сядзела маленькая птушачка з прыгожымі крылцамі. Бацька прывесіў клетку з птушкай да ваконнай рамы і, усьміхаючыся, сказаў маленькаму Валодзіку:

— Гэта птушачка вельмі хораша сьпявае. Я знарок купіў яе для цябе...

Валодзік узрадаваўся, падышоў да клеткі і моцна сказаў маленькай прыгожай птушачцы:

— Сьпявай!

Але птушкі хораша сьпяваюць толькі на волі, у зялёных кустох, на дрэвах, а ў клетцы ім цяжка і журботна.

Птушачка не сьпявала.

— Чаму-ж ты не сьпяваеш?—пытае Валодзік.

Маленькая птушачка паглядзела на маленькага Валодзіка і раптам пачала трапятаць крыльлямі і біцца аб тоненькія дубчыкі. Яна хацела вырвацца на волю з цямніцы.

Дубчыкі клеткі былі хоць і тоненькія, але моцныя. Птушачка не магла іх зламаць. Яна пасядзела на тоненькай перакладзінцы і зноў пачала трапятацца.

Валодзік заплакаў.



— Ня плач, дурненькі, яна будзе сьпяваць,—казаў бацька.

А Валодзік плакаў яшчэ мацней і нічым нельга было супакоіць яго. Яму дакляра-

валі купіць гасьцінца, калі ён пакіне плакаць.

Але Валодзік упарта крычаў:

— Ня трэба мне гасьцінца, не хачу я гасьцінца!

— Дык чаго-ж ты плачаш?

— Птушкі шкада...

Калі бацька з маткай вышлі з хаты, Валодзік узьлез на табурэтку, адчыніў дзьверцы клеткі, адчыніў акно і птушачка палящела на волю, пакінуўшы на ўспамінак яму прыгожае перца.

# ПАЎЛЮЧОК—КАВАЛЬ

*С. Агурцоў*

На канцы вёскі стаіць старая кузьня дзеда Цупрона. Працуе ў ёй дзед Цупрон з сваім унучкам Паўлючком. Паўлючок—хлопчык невялічкі, але шустры такі,—не здарма ў кузьні памагае.

Усе вяскоўцы ведаюць Паўлючка і завуць яго Паўлючком-кавалём.

Вось і цяпер Паўлючок і дзед Цупрон у кузьні працуюць. Дзед Цупрон у чырвонай рубашцы, з хвартухом, стаіць ля кавадла, трымае нагрэтае да-чырвана жалеза і б'е па ім цяжкім молатам. А Паўлючок ля печы разьдзьмухвае мех і глядзіць, як шыкаюць вугольлі і рассыпаюць іскры.

— Давай, давай жару, Паўлючок! Не задумлівайся!

— Я нічога, дзядуня... Я .. так...

— Яно ня лішне-б і пагуляць табе...

І сапраўды, праз дзьверы кузьні відаць зялёныя палеткі, лес, рэчка.

— Не, дзядуня, тут лепш. І весялей і ахватней тут.

— Чаму весялей?—засьмяецца дзед Цупрон.

— Ды й сам ня ведаю, так... Агонь вельмі люблю.

І ўсё тут люблю. А калі твой молат чахкае, дык неяк ахватней робіцца быць тут. Праўду кажу!

— Ну, ну,—скажа добры дзядуня Цупрон,—калі так, тады працуй, ня йдзі гуляць. Хоць я цябе ня трымаю—воля твая.

— Не, не пайду гуляць, дзеду, з табою лепш.

Засьмяецца дзед Цупрон:



— Ну, і дзівак-жа ты, Паўлючок.

А молат дзеда Цупрона:—Дзінь-бум! Дзінь-бум!—так і вухае. А мяхі цяжка сапуць:

— Аша, аша, аша.

Весела працаваць. Ня пойдзе Паўлючок гуляць, а будзе да вечару разьдзьмухаць мяхі.

Добра з дзедам, ахвотна працаваць у кузьні!

## Што чытаць акцябратам.

1. **Юр. Бурдзюк—„Бусел цыбаты“** (пераклад з украінскай мовы **З. Бядулі**). БДВ, ц. 16 к..

Кніжачка разьлічана на дзяцей акцябрацкага ўзросту.

Зьмест такі. На запытаньне „хто-та ходзіць, хто-та бродзіць па вадзе?—даецца жывое, яскравае апісаньне буслоў. Бацянок ходзіць каля рэчкі і „наганяе жабам страх“. Далей ён дае адказ на запытаньне дзяцей, чаму ён ляціць у вырай. Дзеці атрымліваюць (ад бусла) правільны, зразумелы адказ.

Прачытаўшы ці праслухаўшы „Бусел цыбаты“, дзеці добра азнаёмяцца з буслам і яго жыцьцём. Праўда, патрэбны і некаторыя тлумачэньні. Ёсьць дрэнныя малюнкі (асабліва на 3-яй стар.).

2. **Чарнова і Арот—„Наша чыгунка“** (пераклад з украінскай мовы **З. Бядулі**). БДВ, цана 25 кап.

Кніжка таксама разьлічана на дзяцей акцябрацкага ўзросту.

Зьмест такі: дзеці гуляючы „у садочку, у халадочку“, надумаліся пабудаваць, „чыгунку“. Ідзе апісаньне таго, як будавалася чыгунка. Прымаюць удзел усе дзеці, якімі кіруе „інжынэр“ Сымонка. Кожны з дзяцей што-небудзь прыдумлівае і так ідзе работа.

Зьмест кніжкі вельмі цікавы і выламаны ў вершаванай форме. Чытацца будзе кніжка з ахвотай. Прачытаўшы, дзеці навучацца, як будаваць „чыгунку“. Мова простая і блізкая да дзіцячага чытача. Кніжка карысная, яе можна раіць дашкольнікам і акцябратам для чытаньня.

**М. М.**

# ПРА МЯДЗЬВЕДЗЯ САМУСЯ

*Казка З. АСТАПЕНКІ і Ю. ТАЎБІНА*
*Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ*

1.

У бярлозе ў зарасьлі
Жыў мядзьведзь Самусь.
Яму добра спалася
Цэлую зіму.
Спаў пад замяць шуструю,
Ні аб чым ня дбаў,
Толькі лапу тлустую
Нясупынна ссаў.
А вясна прымчалася,—
Разбудзіла ўсё.
Да яго дабралася,
Прыпыніла сон.
Устаў мядзьведзь з развагаю.
— Зрушылі спакой...
І патрос з павагаю
Лысай галавой.
„Ах, як добра спалася!
Ў міг прайшла зіма.
Колькі сноў снавалася,—
А цяпер няма!..
Пні старыя звалены,
Дзе раней сядзеў.
Белыя праталіны
Ўсюды у вадзе...
Сьцежкі, што я некалі
Ў лесе пракладаў,
Дзе сыночкі бегалі,
Сам адпачываў,—
Зьнёс іх пералівамі
Веснавы ручэй;
Хвалямі гульлівымі
Зьнішчаны ўшчэнт.
Ах, як есьці хочацца,
Быццам на бяду!..
Вось пайду за лес я—
Можа што знайду.
Узяў тапор з бярлогу ён,
Новы кажушок,
Ды пашоў разлогаю
Цераз ручаёк.

2.

Топ-топ! Топ-топ!
Ідзе мядзьведзь
Праз лес, праз той,
Ледзь-ледзь ідзе.
Пад ім масток
Скрыпіць—ток-ток!..
І ручаёк
Бяжыць у бок.
Шумяць кусты,
Шуршаць лісты—
„Цішэй!—ледзь-ледзь
Ідзе мядзьведзь“...
Топ-топ! Топ-топ!..
Праз яму—гоп!
Цераз ручэй
Бяжыць хутчэй.
Прабег, захроп:—
Топ-топ!.. Топ-топ!..
Ахрып, засоп,
У поце лоб...
Аж раптам чуе, зьнекуль:
„Стоп“!..

**Воўк:**

Пачакай, Самусь,
Ты здурэў чамусь.
Ня сьпяшайся, браток,
Трасца табе ў бок!..
Бяжыць, ляціць,
Як зайчанё...
Браток, мядзьведзь,
Мяне ледзь-ледзь
Ня зьбіў ты з ног.

**Мядзьведзь:**

Спраўнай
Стравы,
Сьвежай
Ежы
Я хачу!
І за ёю
Я стралою
Палячу!

3.

„Топ-топ! Топ-топ“
Ідзе мядзьведзь,—





Ля вузкіх троп,
Каб ежу мець...
„Топ-топ“!..
Яму дубы
Шлюць свой прывет.
Іх шум грубы
Ляціць у сьвет:
— „Шу-шу! Шу-шу“!
Пакінь шумець...
— Ідзе мядзьведзь...
Ідзе-брыдзе
Праз лес, праз той
І па вадзе—
„Топ-топ! Топ-топ“!
Мядзьведзь бяжыць
Далей, далей
І раптам чуе:
„Эй“!..

**Мядзьведзь:**

Ліска,
Ліска,
Добры дзень!
Скуль, каханая, брыдзеш?

**Ліска:**

Я брыду сабе, брыду
Ля дарог...
Ежы мо' ці не знайду
У лясох...
Замарылася за дзень
Я уся
Ані курыцы нідзе,
Ні гуся...
Не знайду я ні ката,
Ні зайчанят,
А каго не запытай—
Ўсе маўчаць...
Ну, а ты мне раскажы,
Галубок...
Куды гэта так бяжыш,
Сваячок!..

**Мядзьведзь:**

Ня пытай,
Ня крычы,
Кума...

Нават часу адпачыць
Няма!
Спраўнай стравы
Свежай ежы
Я хачу,
І за ёю
Я стралою
Палячу!

4.

Топ-топ! Топ-топ!
Ідзе мядзьведзь...
Слабы, пастой,
Ня йдзі, ня едзь.
У крук самне
Цябе цяпер
Галодны зьвер.
„Куды, куды?—
Шумяць кусты:—
Нясеш бяды
Нямала ты“!..
А ён—брыдзе
Праз лес, праз той
І па вадзе—
Топ-топ! Топ-топ!..
І пад нагой
Ён раптам чуе:
„Ой“!..

**Мядзьведзь:**

Ах, ты зайка-
Шалапайка,
Ледзь нагі не папсаваў,—
Каб ты прапаў!

**Зайка:**

Ах, васпане мой высокі!
Я-ж вам трапіў
Ненарокам...

**Мядзьведзь:**

Эй ты гэтакі, сякі
Зладзюга ты такі!
Ледзь нагі мне не зламаў,
Каб ты сам бязногім стаў.
Зьем!
А зайка—скок-скок!
Ды наўцёк.
Праз поле,
Лясок—
Скок! Скок!
Вось зайкі ўжо
Няма нідзе.
Мядзьведзь ізноў
Адзін брыдзе.

5.

Вечарок над гонямі
Шэрымі прылёг.
Дрэмлюць вёскі цёмныя
У глухіх палёх.
Зоркі вартавыя
Сьвецяць тут і там,
Ды сабакі выюць
З жахам каля брам.
Раззлаваны ходзіць
Па палёх мядзьведзь,
Ежы не знаходзіць
Ён сабе нідзе.
Вось мядзьведзь заўважыў
Хату між палёў.
І туды адважна
Прэцца кумілём.
Ў хаце той, разьбітай
Громам у прыпар,
Жыў стары Мікіта—
Бедны гаспадар.
Меў каня, кароўку
Ды нічога больш,
На двары—рыдлёўку,
Спарахнелы кол:



Вось мядзьведзь прыходзіць,
Ломіцца на двор.
Крадзецца, як злодзей,
Цемраю начной.
Разламаў у пуні
Тонкую страху
І карову стуль ён
Сьмела пацягнуў.
Дацягнуў да лесу
Ён яе ледзь-ледзь,
І наеўся, урэшце,
Як хацеў, мядзьведзь.
„Тру-ру?
Ру-ру“!..
Зьвіняць ражкі,
Ідуць у лес
Паляўнікі.
„Чакай, мядзьведзь,
Ня будзеш ты
Хадзіць да нас,
Цягаць кароў
У цёмны час!
Ня будзеш ты
У бярлозе спаць.
Ідзем цябе
Шукаць, шукаць“!..
Мядзьведзь пачуў
Ды—у галёп!
Бяжыць праз гаць,
Трашчыць гальлё.
„Хутчэй! хутчэй!..
Мо' уцяку...
Схаваюся
У тым ляску“!..
Бяжыць мядзьведзь,
Праз лес бяжыць
Аж раптам—
— Хлоп!
— Ляжыць!

. . . . . . . . . . . .

Пацямнела ў вачох,
Засмылела плячо,
Загула галава...
Паваліўся...
Прыгарнула мядзьведзя
Трава...
І
Ледзь-ледзь
Ужо дыхае мядзьведзь...

##########

## ЯК ЗРАБІЦЬ ПАЛІЧКУ ДЛЯ КНІЖАК

Кніжкі губляюцца, скора дзяруцца, калі валяюцца абы-дзе.

Кожны можа зрабіць для сваіх кніжак палічку. Трэба дастаць фанэры ці тонкіх дошчак і зрабіць так, як паказана на малюнку. Даўжыня дошкі 45 см, шырыня—18 см. Па кутках дошкі пракруцеце дзіркі. Потым вазьмеце вяровачку і прадзеньце праз дзіркі, завязаўшы зьнізу вузлы.

Палічку можна прывесіць да сьцяны.




## ЗЬМЕСТ № 12.

# ДЛЯ ЗАБАВЫ І КАРЫСЬЦІ

## НАМАЛЮЙ САМ



**Мал. 1.**
*Рыбу з падоўжнага кружка.*



**Мал. 2.**
*Мядзьведзя з простых фігурак.*



**Мал. 3.**
*Саву з яйка.*



**Мал. 4.**
*Парася з бобу.*



**Мал. 5.**
*Птушку з падоўжнага кружка з хвосьцікамі.*

## МАСКАРАД

Дзеці любяць на сваіх вечарох глядзець розныя цікавыя прыстаўленьні. Адным з такіх прыстаўленьняў можа быць маскарад. Гэта такое прыстаўленьне,



калі на сцэну выходзяць людзі ў розных масках.

Кожнаму такому артыстаму можна выдумаць пэўную ролю.

Вось некалькі такіх артыстых.

Цікавым нумарам будзе—асядланы гусь.

Шыю і галаву зробім з тоўстай паперы; шыю абклеім белай папераю, а нос—чырвонаю. Тулава зробім з мяшка, сядло-крыльлі з матар'ялу іншага колеру.

Такі гусь ходзіць па сцэне, кланяецца, нават можа вазіць на сабе дзяцей.

Можна зрабіць і вяліканаў. Такога вялікана можна прыбраць у турэцкае адзеньне, можна прыдумаць і якую-небудзь іншую фантастычную фігуру.

Такі вялікан можа на сцэне пасьпяваць, пайграць, прадэклямаваць і г. д.

Вяліканаў можна рабіць і з аднаго піонэра. Тады на галаву піонэра адзяецца зробленая з паперы маска (казла, сабакі, або чалавека абы-якой нацыянальнасьці і інш.).

Паспрабуйце скарыстаць прыклады, якія тут зьмяшчаюцца і прыдумайце самі новыя маскі і фігуры.



Друк. БДВ. Зак. № 2956. У ліку 1.500. Галоўлітбел № 1825.